# Самапомач Samapomač

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс

Год VII. Вільня, Лістапад 1938 г. № 11 (85).



*Аб чым піша «Самапомач»:*



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул.

# Яшчэ раз—наша праўда

Ад самага пачатку існаваньня нашага часапісу—сёмы ўжо год!— цьвердзілі мы і цьвердзім, што сапраўдны дабрабыт будуецца не дапамогамі, але самадзейнасьцю самых зацікаўленых людзей. Дапамогі не гадуюць сапраўды гаспадарскіх вартасьцяў, але наадварот, дэзорганізуюць усякі здаровы ў гэтым кірунку пачын.

Гэтымі думкамі спатыкалі і праводзілі мы ўсе гэтак званыя *гаспадарскія нарады* ці конфэрэнцыі ў Вільні, Наваградку ці аж у Варшаве, на якіх розныя добрыя людзі абяцаліся і прысягалі, што паправяць долю нашага беларускага селяніна. Ня верылі мы ў гэта ані друбіначкі, а жыцьцё паказала, што праўда была па нашай старане. Бо і дзе-ж напр. падзеліся ўсе абяцанкі гэтак шчодра сыпаныя хоць-бы на леташняй восеньскай (11.XII.37) нарадзе ў Вільні, або на сёлетняй вясьнянай — у Варшаве? Дзе тыя грашавыя ўклады ў земляробскую перавытворчасьць, у арганізацыю абароту прадуктамі земляробства і такімі пладамі, як грыбы, лясныя ягады, рыба, мяса, малако і перад усім — лён і бульба? Дзе самым міністрам Панятоўскім абяцанае насіленьне хутарызацыі з помаччу казны? Дзе тая лядоўня ў Вільні, якую вось-вось „меліся“ ўжо пачынаць будаваць і аб якой ужо на добрае... забыліся? Прыціхла неяк і шумная справа „электрызацыі“ Віленшчыны... Дзе ўсё гэта? А калі так, дык нашто было зьяжджацца на „нарады“, гаварыць шумныя прамовы, траціць дарагі час і грошы?

Да гэтых самых выснаўкаў дайшоў анагдай і нехта **Н. Z.** у 41—42-ім сёлетнім нумары органу Віленскай Земляробскай Палаты „Tygodnik Rolniczy“. Названы аўтор, сьцьвердзіўшы, што на 630 клм. граніцы Віленшчыны з суседнімі гаспадарствамі, толькі 240 клм. прыпадае на граніцу ўнутраную,— кажа, што гэткая пазыцыя нашых зямель наказвае асаблівую дбайнасьць аб іхні стан гаспадарчы. Тымчасам бязлікія нарады ў гэтай справе ўтапіліся ў тоннах паперы і ў тысячах прагонных („дыетаў“), з каторых аднак ня выйшла ніводная дзелавая думка (даслоўна!).

Вот-жа гэта й ёсьць! Гэта самае кажам мы ад самага пачатку. Палепшаньне быту нашага селяніна пачынаць трэба не ад крошак, якія часам ласкава зваляцца яму з зялёнага стала, але ад **творчага зім супрацоўніцтва і супольнай адказнасьці.** Адна тут толькі заўвага: „сялянства“ сягоньня ў нас гэта ня тая запужаная і таму ня раз на ўсё гатовая маса. Не! Сялянства — гэта сьведамы сваіх правоў і абавязкаў агул насельніцтва нашага Краю, які пры ўсякіх варунках захаваў і сьцеражэ свой родны воблік. З гэтым лічыцца трэба перад усім!

**Пры надыходзячых выбарах ў Грамадаўскія Рады („Rady Gromadzkie“) ніхто ня сьмее казаць, што „абыйдзецца там і без мяне“. Ад гэтага залежа з кім і як будзем жыць у найбліжэйшай будучыні.**

# Як падняць даходнасьць гаспадаркі

(*Папраўма нашы пасьбішчы!*)

Наступіла сьцюдзёная, дажджыстая восень. Жывёла стала ў хлявы на доўгі зімовы адпачынак. Налазілася яна за лета па пасьбішчы, на якім, як кажуць, хаця вош пусьці — то знойдзеш. Вельмі слабыя пасьбішчы змушаюць карову, а з ей і пастушка абегаць паўсьвету за дзень. Карова ня можа ані добра напасьвіцца, ані адпачыць. Вернецца ў хлеў і тут нічога добрага не застане. Вотрубаў не дастане, бульбы мала, пераважна сена з асакі і салома, ад чаго да вясны падыймаць трэба карову на рučніках. Ясна, што ад такое каровы ані малака, ані гною. А гной і малако гэта падстава гаспадаркі. Адно з другім тут так зьвязана, як сьпіцы у колясе: хай колькі сьпіцаў высыплецца, дык кола пачынае хістацца, аж потым зусім ломіцца. Таму ў час трэба падумаць аб добрай пашы для жывёлы на лета і на зіму.

Пры агульным — вясковым — пасьбішчы тут бязумоўна мала што можна зрабіць. Таму зварочваемся да тых, хто сядзіць ужо на хутарах. Хутары нашыя малыя — пераважна 3, 4, 5 ці 6 гэктаровыя. Калі мы ня будзем папраўляць нашых пасьбішчаў, то хочучы трымаць на такім хутары дзьве-тры каровы і каня — трэба адпусьціць найменш 2—3 гэктары на пасьбішчы. А што нам тады астаецца на сяўбу, на хлеб? Тымчасам, як дасказалі навейшыя точныя досьледы з штучнымі лугамі ня толькі заграніцай, але і ў нашым краю — **адзін гэктар** добра дагледжанага пасьбішча **можа даць пашы для 3—4 штук жывёлы.** Такія досьледы былі праведзены на дасьледчай тарфяной станцыі пад Сарнамі, на Палесьсі. Бязумоўна, залажыць гэктар штучнага пасьбішча каштуе даволі дорага і таму на собскую руку, бяз помачы самаўрадаў і земляробскіх арганізацыяў ня кожны можа сабе на гэта пазволіць. Дзеля таго радзяць палепшываць пасьбішча паступова, хатнім, танейшым спосабам.

Нашыя пасьбішчы маюць пераважна рэзуху, якая ёсьць мала пажыўнай пашай для жывёлы і вельмі слаба адрастае. Рэзуха пакрывае нашыя лугі як тарфяныя, так і мінэральныя. Трэба перад усім старацца ўвесьці на пасьбішчы больш культурныя травы, хоць-бы і дзіка растучыя. Кожны амаль гаспадар мае возік, або два лепшага сена для каня ці цяляці. З гэтага сена астаецца на та-

# Kooperatyŭnyja bojni

Kooperatyŭnyja bojni najbolš raźvilisia ŭ Danii dziakujučy dobra raźvitaj tam śvinahadoŭli, jakaja jdzie tam uśled za małačarstvam. U 1881 h. ŭ Danji było 527.000 śviniej, a ŭ 1935 h. było ich užo 4 miljony.

U adoźvie da zapisyvańnia ŭ siabry pieršaj kooperatyŭnaj bojni byli vysunieny try punkty, jakija dakazvali sialanam patrebu budavać svaju sobskuju bojniu: 1. aščadnaść bolš 30.000 kronaŭ komisovaha, płačanaha agientam bojniaŭ pryvatnych; 2. ziemlaroby atrymajuć poŭnuju vartaść śviniej, bo hadavy zysk padzielicca ŭ kancy hodu pamiž siabraŭ kooperatyvy praparcyjanalna da liku śviniej dastaŭlenych u hetym hodzie ŭ bojniu; 3. sama bojnia budzie mieć mienš biady z adpadkami, jakija achvotna zabiaruć sami dastaŭcy. Abrachavana było tolki, što kab bojnia apłaciłasia, treba pierarabić u joj u hod 10.000 śviniej. Na budovu i ŭsie mašyny ŭ bojni treba ŭziać doŭhasročnuju pazyčku 130.000 kronaŭ, za jakuju paručacca ŭsie siabry kooperatyvy.

U adkaz na hetu adozvu za adzin miesiac 1887 h. 1100 danskich haspadaroŭ złažyli paruku na 180 000 kronaŭ, a 1218 haspadaroŭ zabaviazalisia dastaŭlać praz 7 hadoŭ pa 10.500 śviniej u hod. U žniŭni m-cy pačali budavać bojniu, a ŭ kancy śnieźnia bojnia pačała ŭžo pracavać. Nia hledziačy na pieraškody z boku pryvatnych handlaroŭ i haradzkoj rady, ŭ kooperatyvu ŭ pieršym hodzie było dastaŭlena 23.400 śviniej, heta znača dvojčy hetulki, na kolki rachavali. Kab papravić rasu śviniej, kooperatyva (bojnia) vypisała 200 štuk zavodnych śviniej-matak i kolkinaccać knuroŭ čystaj kryvi Yorkshire (čytaj: jorkšajr), jakija byli razmiešča-

ку шмат насеньня. Выкідаць яго ня можна — трэба зьбіраць і перахоўваць да вясны. Восеньню, пакуль яшчэ пасьбішча не замерзла, трэба яго канешна збаранаваць, каб даць паветру доступ да карэньняў травы і каб выцягнуць мох. Да баранаваньня служаць спэцыяльныя лугавыя бароны, але можна баранаваць і нашай бараной польнай. Выгрэбкі трэба сабраць.

Як толькі настане вясна і сьнег спаўзе з лугу, прыступаем да далейшае работы. Даём—разсяваем тое насеньне, якое праз зіму сабралі і калі маем пару злотаў — купляем мяшок ці два каініту. Калі нельга купіць каініту, дык можна даць, сабраны праз зіму попел з печы, або яшчэ лепш — кампост. Таму, што да кампосту нашы людзі йшчэ не ўцягнуліся — найлепш будзе даць дробнага конскага гною, або сьвіннога.

Пасьля ўсяго тут апісанага—добра было-б луг прывалаваць — асабліва луг тарфовы, які праз зімку робіцца трохі рэдкім, адстае. Луг мінэральны можа абыйсьціся і без валаваньня. Калі мы гэта зробім, то адразу ў першым годзе пераканаемся, што ўраджаі на нашым пасьбішчы падыймуцца і аплацяць з надвышкай уложаную працу. Таму—пакуль яшчэ не замерзла збарануем луг, а праз усю зімку зьбіраймо насеньне з сена і попел.

П. З.

# Гаспадараньне вадой на сенажаці

Найчасьцейшай прычынай слабай ураджайнасьці сенажаці ёсьць неурэгуляваная на ёй гаспадараваньне вадой.Айменна, увосені, узімку і вясной на сенажаці звычайна бывае за шмат вады, затое ўлетку і ў першай палавіне восені там вады бывае замала. Карэньне добра-якасных траваў ад доўгага прабываньня ў вадзе гніе, а травы—гінуць. Астаюцца там травы менш вартасныя, так званыя травы кіслыя, якія выносяць надбытак вады, а так-жа пустазельле, якое, як ведама, расьце ўсюды, хоць ніхто яго ня сее.

Земляроб цэніць сваю сенажаць звычайна на вока: узімку на сенажаці часта няма зусім вады, а дзеля таго, што такая сенажаць і ўлетку таксама выразна церпіць ад сушы, дык думае чалавек, што сенажаць ягоная за сухая. А ў сапраўднасьці можа быць зусім інакш. Бо найважнейшае значэньне мае тут вада не на версе, але ў сподзе, г. зв. вада грунтавая. Пры неурэгуляванай воднай гаспадарцы на сенажаці, познай восеньню і ўзімку, калі вопадзяў атмосфэрычных бывае шмат і выпарэньне вельмі слабое, — на паверхні сенажаці можа вада зусім ня быць. Аднак уся вада ўпіваецца тады ў зямлю, ейная

ny ŭ haspadarkach siabroŭ kooperatyvy. U 1915 h. bojnia mieła ŭžo 5.000 siabroŭ, jakija dastavili 88.000 śviniej, a ŭ 1916 h. bojnia była pierabudavana na pryjmańnie 3000 štuk śviniej.

Kooperatyŭnyja bojni raźmieščany roŭna pa całym kraju, kožnaja z ich abshuhoŭvuje svoj vokruh, nia ŭchodziačy na abšar vokruhu susiedniaha.

Pryvatnyja bojni spačatku ŭsimi siłami staralisia konkuravać z bojniami kooperatyŭnymi, płaciačy navat daražej za dastaŭleny tavar. Śviedamyja adnak danskija kooperatary heŭu spakusu vytrymali i siahońnia 85 prac. śvinoha tavaru pierarablajecca ŭ bojniach kooperatyŭnych.

Bjuć śviniej u kooperatyŭnych bojniach 2—3 razy na tydzień. Apłatnaść haspadarki ŭ kooperatyŭnych bojniach u vialikaj miery zaleža ad taho, jak heta bojnia patrapić vykarystać usie adpadki. Naležnaść za pryniaty ŭ bojniu tavar vysyłajecca dastaŭcom poštaj cieraz 2—3 dni paśla dastavy. Kab zaachvocić svaich siabroŭ da hadavańnia lepšaha tavaru, kooperatyŭnyja bojni płaciać za tavar pavodle jahonaj jakaści i bitaj vahi. Pry pryjmańni ŭ bojniu śvini, pryčaplajecca jej u vucho numar jejnaha haspadara. Zabituju śviniu, pa ačyščeńni jaje, važyć prysiažny čynoŭnik, paśla čaho kolčyk, z aznačeńniem vahi i jakaści tavaru, adsyłajecca ŭ kantoru dziela abličeńnia vypłaty naležnaj haspadaru. Najbolšuju canu płaciać za štuki bitaj vahi ad 132 da 165 funtaŭ (nie kilohramaŭ!), abo žyvoj vahi 176 da 220 funtaŭ.

Tydniovyja dastavy ŭ praciahu hodu byvajuć blizu što roŭnamiernyja. Roŭnamiernaść heta była narušana ŭ časie vajny, paśla jakoj roŭnamiernaść uznoŭ viarnułasia. Maje heta vialikaje značeńnie, bo zapeŭnivaje roŭnamiernuju pracu.

паверхня падыймаецца на гэтулькі, што карэньне траваў дастаецца ў ваду, самі травы ад гэтага гінуць, а астаюцца толькі травы менш вартасныя і пустазельле. Улетку-ж — наадварот — ровень грунтавой вады апускаецца за вельмі нізка, а калі здарыцца суш, дык гэтыя-ж добра якасныя травы таксама гінуць ад нястачы вогкасьці.

З усяго гэтага гаспадарку на сенажаці трэба пачынаць ад упарадкаваньня гаспадаркі воднай. Пакуль гэта ня станецца, нічога не памогуць ніякія гнаі, ні нават падсейваньне траваў, бо яны пагінуць. Трэба перад усім пераканацца, як высака сягае споднявя вада.

Дзеля гэтага трэба выкапаць на сенажаці вузкую, на адзін мэтр глыбокую студню, а бакі гэтай студні трэба ўмацаваць дошкамі, каб не абсыпаліся. Звычайным шастом цераз колькі дзён па сабе трэба мерыць, як высака ад паверхні зямлі сягае сподняя вада. Узімку паверхня вады ня сьмее падыймацца вышэй як на 60 см. ад паверхні зямлі, а ўлетку гэта самая вада ня сьмее апускацца ніжэй 50—70 см. Пры гэткай роўні споднай вады травы чуюцца найлепш, г. зн. узімку „ня ўтопяцца," а ўлетку — ня высахнуць. Калі-ж вышка споднай вады акажыцца іншай, дык яе трэба выраўнаць. Ня ёсьць гэта справа труднай: узімку трэба лішнюю ваду адагнаць, а ўлетку не дапускаць каб яна адплывала. І адно і другое робіцца пры помачы адкрытых равоў з шлюзамі (застаўкамі), каторыя затрымоўваюць ваду, калі яе за мала і пускаюць — калі яе за шмат. Затрыманая вада ў такіх равох улетку прасочваецца пад усю сенажаць і падыймае ападаючую ваду споднюю (грунтавую). Увосені, узімку і раньняй вясной лішняя вада вольна адплывае.

Адкрытыя равы можа кожны выкапаць сам, толькі кірунак гэтых равоў, іхнюю глыбку і колькасьць мусіць паказаць спэцыяліст; выдатак на такога спэцыяліста (мэліорацыйнага тэхніка) заўсяды аплаціцца, асабліва калі за працу бярэцца цэлая грамада. Раз выкапаныя равы трэба ўтрымоўваць у парадку, каб не замуліваліся. Час ад часу такія равы трэба вычысьціць і паглыбіць. Таксама трэба пільнаваць, каб равоў такіх не псавала скаціна. Мясцамі гэткія равы нават абгараджваюць.

Сенажаць з унармаванай вогкасьцю хутка папраўляецца, а калі да гэтага прылажыць яшчэ дальшыя стараньні, дык ураджайнасьць ейная падыймецца нават у 3—4 разы. Дзеля гэтага аднак да працы трэба прыступіць зразу звосені.

З. К.



Należnaść vypłačvanaja za dastaŭlenу ŭ kooperatyŭnuju bojniu tavar raŭniajecca 90 prac. vartaści rynkovaj; rešta vypłačvajecca pa zamknieńni hadavych ci poŭhadavych rachunkaŭ bojni. Ceny vyznačajucca ŭ ceńniku, jaki publikujecca ŭ kancy kažnaha tydnia na tydzień nastupny. Hety ceńnik ustanaŭlaje kamisija z troch asob.

Bojni patrabujuć značna bolšaha asnaŭnoha i abarotnaha kapitału, čym napr. małačarni; pryhatavańnie tavaru (bekonaŭ) na prodaž tryvaje daŭžej, čym pryhatavańnie masła, a za dastaŭlenuju ŭ bojniu śviniu treba płacić užo cieraz 2—3 dni paśla dastaŭki. Nie zvažajučy na heta adnak danskija kooperatyŭnyja bojni nia majuć kapitału pajevaha, jak napr. majuć jaho kooper. małačarni; patrebny asnaŭny kapitał znachodziać jany ŭ formie doŭhasročnych pazykaŭ, spłačyvanych časciami (ratami) ŭ praciahu času, na jaki siabry bojni zabaviazalisia ŭmovaj. Časam spłatu pazyčki ŭziataj na budovu bojni razkładajuć na 10, a časam na 14 hadoŭ. Kapitał abarotny, patrebny na biahučyja vypłaty za pryniaty tavar, danskija kooperatyŭnyja bojni biaruć z 6-miesiačnych pazyčak u banku; u druhoj pałavinie spravazdaŭčaha hodu chapaje ŭžo sabranych nadvyžak.

U kooperatyŭnaj małačarni kožny siabra adkazvaje za jejnyja zabaviazańni biespasiaredna. U bojni ŭviedziena adkaznaść hrupavaja, heta znača, što za zabaviazańni bojni adkazvajuć solidarna parafji da vyšyni prypadajučych na ich sumaŭ hvarancyjnych, a ŭnutry hrupaŭ parafjalnych sumy hetyja raskładajucca pamiž siabrami ŭ praporcyi dastaŭlenych imi za hod u bojniu śviniej, abo ŭ praporcyi vartaści ichniaj haspadarki, napr. da vyšyni $^1/_2$ pracenta sumy, na jakuju aceniena ŭ hipotecy ichniaja haspadarka.

# Хлеў ня катарга

Каторы ўжо раз прыходзіцца аб гэтым пісаць. І заўсяды гэта справа на часе!

Па двух гадох сякой-такой аплатнасьці збожа, цэны на яго ўзноў апалі і апірышчам гаспадаркі земляробскай узноў сталася жывёлагадоўля. На добры лад у гэткіх варунках дбайнасьць чалавека аб сваю жывёлу мусіла-б быць вельмім завострана. Інакш аднак ёсьць у сапраўднасьці. Дзьве могуць быць гэтага прычыны: нядбаласьць і няўмеласьць мімавольная. Абедзьве яны паходзяць стуль, што жывёлагадоўля ёсьць вышэйшым ступнём гаспадаркі і таму вымагае ад чалавека больш умеласьці і стараннасьці, чым напр. першабытная гаспадарка ў полі. Па сколькі нядбаласьць ёсьць перашкодай невылячымай, пастолькі няўмеласьць мімавольную можна перамагчы пляновым самаўсьведамленьнем аб істоце жывёлагадоўлі. Аб гэтым тут і скажам колькі слоў, датасоўваючыся да вымогаў восеньскіх.

Вот-жа маем тут на ўвазе варункі, у якіх жывёла наша змушана жыць у хлявох. Як гэтыя хлявы выглядаюць — ведае кажны: няма там вольнага чыстага **паветра** і няма **сьвятла**. А жывёла тым і вызначаецца, што ўсяго гэтага канешна патрабуе; і то патрабуе ня менш, чым пашы і вады. Вада і тымбольш паша нігдзе дарма не даюцца і таму няма дзіва, калі часам гаспадар на гэта з канешнасьці крыху прыскупіцца. Але сьвежае чыстае паветра і сьвятло — гэта-ж нічога не каштуе. Дык чаму на іх мае чалавек скупіцца? Жывёла чым прасьцейшая (не заводная), тым лягчэй пераносіць усякія недастаткі. Але і найбольш вытрывалая жывёла цяжка адчувае гэтыя недастаткі асабліва зразу ўвосені, калі з вольных прастораў палёў апынецца ў цесным затухлым кутку.

Згэтуль выснавак, што зразу ўвосені трэба прынаравіць хлеў да таго, каб пастаўленая ў ім жывёла не цярпела ад недастатку чыстага паветра і сьвятла. Доступ паветра ў хлеў, калі толькі дзе можна, вядзецца праз убудаваны ў страсе „комін,“ зьбіты з чатырох дошчак. Гэты комін можа быць адкрыты праз цэлы год, з выняткам толькі дзён слотных і вельмі марозных: у гэткія дні комін затыкаецца звычайным вехцем саломы. На доступ сьвятла ў хлеў трэба канешна ў сьцяне з паўдзённай стараны зрабіць ваконца, якога аднак ня можна затыкаць анучамі, але ў якім абавязкава павінна быць устаўлена рама з шклянымі шыбамі. Разьмер такога акна ня можа быць меншы, як 60—80 см.

Урэшце, у найгоршым выпадку, калі ані коміну на паветра, ані ваконца

---

Umovy padpisvajucca na čas ad 5 da 14 hod; u kancy kožnaha takoha sroku abličajecca ŭkład kožnaha siabry ŭ kooperatyvie zaležna ad taho, kolki jon dastaviŭ u bojniu tavaru. Kali za hod pierad kancom takoj umovy siabra nie paviedamiŭ piśmienna ŭpravu bojni ab tym, što z bojni choča vystupić, dyk uvažajuć jaho, što astajecca siabram bojni i na nastupny srok. Kožny siabra abaviazany dastaŭlać u bojniu ŭsie praznačanyja na zabićcio śvini, z vyniatkam tych, jakija majuć być zabity na ŭłasnyja patreby, a tak-ža parasiat da troch miesiacaŭ. Kali-b niechta pastupaŭ niazhodna z umovaj, dyk płacić bojni adškadavańnie 10 da 50 kronaŭ za kožnuju štuku.

Na ahulny schod kooperatyŭnaj bojni prychodziać nia ŭsie siabry (bo ich vielmi šmat), a tolki delehaty ad parafijaŭ. Uprava składajecca z 7—20 čałaviek, ale płatnym jošć tolki staršynia. Uprava naznačaje kiraŭnika, kasjera i buhaltara. Dla kantroli rachunkaŭ schod delehataŭ vybiraje dvuch revizoraŭ abo daručaje hetu spravu revizoru prysiažnomu. Sprečki pamiž siabrami bojni i ŭpravaj vyrašaje svoj vybarny sud.

Užo skazana było, što kooperatyŭnyja bojni zajmajucca nia tolki staranoj handlovaj, ale tak-ža i fachova-ziemlarobskaj. Vot-ža hetaj asablivaj čynnaściu zajmajecca pierad usim sajuz kooperatyŭnych bojniaŭ, jaki miž inš. uspamahaje hadaŭlanyja stancyi i ich dahladaje (kantraluje), arhanizuje vystaŭki, sartuje i stempluje tavar vysyłany zahranicu. Na kolki heta kantrola vysyłanaha tavaru arhanizavana, vidać choć-by z taho što ŭ razie reklamacyi Sajuz, choć vysyłaje tavar ad usich bojniaŭ, łohka znajdzie, čyj tavar zahranicaj akazaŭsia nižej spadziavanaj jakaści.

Дасьпелы гэты шкоднік ёсьць невялікім матылём, з чырвона-бурымі крыльлямі: пярэднія крыльлі цямнейшыя, заднія — сьвятлейшыя і ня маюць папярэчных палосак, якія ёсьць на крыльлях пярэдніх. Матылёк гэты лятае вечарамі ў канцы чэрвеня і аж да пачатку жніўня і складае свае яечкі радамі ў форме пярсьцёнка на маладых галінках яблыні, ігрушы і вішні. Яечкі гэты матыль зьлеплівае сваім сьлюзам, які дакладна засыхае і моцна трымаецца праз зіму аж да вясны. Вясной з гэтых яечак выходзяць чорненькія касматыя рабачкі, якія спачатку днём жывуць разам у адным гнязьдзе, а ўночы выходзяць на жыр; аб'ядаюць пры гэтым сочнае лісьцё на дрэвах і гэтым вельмі шкодзяць нашым садом.



**Шчоткі да ачышчаньня кары пладовых дрэваў.**

Дасьпелая гусеніца (рабак) пярсьцёначнага шаўкапрада становіцца сьветла-сіняй, з белай палоскай на сьпіне і цёмна-чырвонымі па баках; у гэту пару гусеніцы ўжо выходзяць з гнязда і жывуць кожная асобна. У м-цы чэрвені гэтыя паласатыя рабакі завіваюцца ў коканы (гнёзды) і праз два тыдні з іх выходзяць ужо сьпелыя матылі, каторыя далей кладуць яечкі і далей размнажаюцца.

Гэта ёсьць спосаб жыцьця пярсьцёначнага шаўкапрада. З гэтага вынікае і спосаб барацьбы з ім:

1. Увосені, калі ападзе лісьцё, праз цэлую зіму

і вясной, пакуль не распусьціцца лісьцё новае, трэба стала нішчыць добра значныя яечкі пярсьцёначнага шаўкапрада.

2. Няўпынна зьбіраць і нішчыць гнёзды ягоных гусеніц і

3. Абпырсківаць садовыя дрэвы атрутай, званай *парыская зелень*. Ёсьць гэта зялёны парашок, які мае ў сабе аршэнік і медзь; таму ня можна яго ўдыхаць, ані браць у рот. Для маладых дрэваў бярэцца гэткі склад: 10 грам парыскай зелені, 20—30 гр. нягашанай вапны і 12 літраў вады. Для дрэваў старшых: 20 гр. парыскай зелені, 40—60 гр. нягашанай вапны і 12 літраў вады.




**Абрэзываньне лішніх сукоў.**
a. Добра абрэзаны сук. b. За глыбака. c. За высака.
d. Як абрэзываць?: 1 — глыбака, 3 — высака, 2 — добра.

Акрамя яечак і гнёздаў пярсьцёначнага шаўкапрада, ёсьць яшчэ цэлы рад іншых шкоднікаў, якія хаваюцца ў кары дрэва, а якіх цяпер час стуль павыганяць. Цяпер апошні час паабіраць старую кару, у шчэлінах якой хаваюцца шкоднікі, усё дрэва трэба ачысьціць паверсе шчоткамі і пабяліць вапнай.

Урэшце трэба паабразаць сухія і наагул лішнія сукі, якія не дапускаюць у карону сонечных праменьняў. Трэба пры гэтым сьцерагчыся, каб ня рэзаць ані за глыбака, ані за высака.
В. Р.

## Дадаткі і папраўкі

Нічога не стаіць на месцы. Тым больш не стаіць на месцы веда садоўніцкая. Што няраз было „апошнім крыкам моды“ ўчора, калі падаваныя тут артыкулы друкаваліся першы раз, тое ёсьць ужо ўстарэлым сяньня і патрабуе агаворкі і дапаўненьня.

Акрамя таго ненармальныя сяньняшнія варункі выдавецкай працы беларускай не дазволі ўсьцерагчыся некаторых пропускаў, без папраўкі каторых зьмяняецца сэнс самых артыкулаў.

Усё гэта змушае нас пры канцы зьвярнуць увагу чытача на наступныя больш і с т о т н ы я мясцы, якія просім **паправіць перш**, чым прыступіць да карыстаньня з „Чытанкі“:

**1. на бач. 16-тай, радок 2-гі зьнізу:**

| надрукавана: | павінна быць: |
| --- | --- |
| *пакуль* мыла *не* распусьціцца | *як толькі* мыла распусьціцца |

**2. на бач. 24-тай радок 1-шы зьнізу:**

| | |
| --- | --- |
| на два-тры сантымэтры *мялчэй,* | на два-тры сантымэтры *глыбей.* |

**3. на бач. 25, прад апошнім абзацам: «У часе кожнага палоньня...» трэба ўставіць наступныя сказы:**

Улетку трэба сьцерагчы маладыя сеўкі і старэйшыя дрэўцы прад нападам травяністай тлі (глядзі бач. 16, радок 26 і наступныя). — Калі не вясьці барацьбы з зялёнай тлёй, дык яна размножыцца масава, на дрэў-

цах пакруціцца лісьцё, верх і ўсе сучкі скрывеюць, дрэўца перастане расьці, кара прысохне к пню, само дрэўца застанецца не заачкованым і ўласьнік пітомніку панясе вялікую страту.

**4. на бач. 37, радкі 11—12:**

| надрукавана: | павінна быць: |
|---|---|
| пабелку дрэў найлепей рабіць раньняй вясной. | пабелку дрэў найлепей рабіць *у кастрычніку* ці раньняй вясной. |

**5. на бач. 51, прад абзацам: «Як мусяць выглядаць дрэўцы...» уставіць абзац новы:**

Апрача вышэй пералічаных галоўных даўных сартоў яблыні, па кароткім выпрабаваньню ў нас аказаліся добрымі малазнаныя дагэтуль сарты, як: „Welthy“ (Уэльсы), Акеро, Філіппа і Гаральсон.

**6. на бач. 51, радок 10-ты зьнізу:**

| надрукавана: | павінна быць: |
|---|---|
| *malus prunifolia* | *malus silvestris* |

Калі хто знойдзе дальшыя недахопы ў зьмесьце гэтых артыкулаў, будзем вельмі ўдзячны за зьвярненьне на іх нашай увагі: выкарыстаем усё пры наступным выданьні кніжкі, калі гэтага будзе трэба.

---



## Зьмест

# Як паправіць воўну нашых авец

Гадоўля авец у нас сягоньня закінена, а шкода. Бо іншай так усестаронна ужытковай як авечка жывёлы няма. Дае яна добрае і смашнае мяса, цэннае малако на выраб сыроў, аўчыны на кажух, а найважней — дае яна воўну, з каторай гаспадар выробляе добрую вопратку для сябе і для сваей сям'і.

Пры гэткіх карысьцях, якія чалавеку дае авечка, сама яна ад чалавека вымагае вельмі мала. У гаспадарцы патрабуе яна найменш апекі і таму гадоўля яе ёсьць найтанейшаю. Зьядае яна ўсе адпадкі ў гаспадарцы, а галоўнай пашай для яе ўзімку ёсьць трасянка з саломы, сена ды крыхі акопнінаў. Хлеў для авечкі можа быць самы просты. — Але мы тут хочам гаварыць аб воўне.

Тая воўна, з якой сяньня гаспадар выробляе сабе вопратку, бывае горшай якасьці. Ня дзіва таму, што гаспадар наш ня можа ўзяць за яе лепшай цаны. Якія гэтага прычыны?

I. **Неадпаведнае кармленьне авечак** у тым часе, калі воўна расьце. Калі авечка галадуе, дык воўна грубее. Волас такой воўны называецца няправільным: ён менш вытрывалы, не такі элястычны (нецягучы) і ён ужо сваей грубасьці ніколі ня зьменіць. Таксама, калі ў часе росту воўны авечка хварэе, дык волас мясцамі грубее, ад чаго воўна траціць на вартасьці. Урэшце на якасьць воўны мае ўплыў сама паша авечкі: напр. воўна авечак, што пасуцца на пасьбішчах сухіх, будзе далёка лепшай чым воўна авечак пашчаных на пасьбішчах падмоклых.

II. **Благое абходжаньне з воўнаю** на авечцы і па астрыжэньню. Нагул усюды ў нас воўна на авечцы бывае вельмі забруджана рознымі адпадкамі пашы, гноем ды пылам. Рэдка дзе ў нас падаюць авечкам пашу за сумысна ўстроеныя драбінкі; звычайна-ж такую пашу кідаюць проста на зямлю між авечак і гэтак занячышчаюць воўну. Акрамя таго спад страхі сыплецца на авечак салома, пілавіньне і рознае сьмяцьцё, а спад споду гэта самая воўна занячышчаецца гноем, каторы воўну грызе.

III. Пакідаючы ягняты на плем, га-

---

на сьвятло чамусьці ў такім хлявушку зрабіць ня ўдасца, дык усю жывёлу з такога хлява трэба канешна прынамся на гадзіну выганяць кожны дзень на вольнае паветра. С. Л.

---

Anhlija choć sama najbolš spažyvaje miasa, to adnak na miescy pradukuje jaho što raz mienš, pierachodziačy da hadavańnia kurej i pradukcyi jajok. Bolšaść anhlickich kooper. bojniaŭ paŭstała padčas vajny. Pa vajnie lik bojniaŭ u Anhlji źmianšajecca. Z niedastačy roŭnamiernaha matarjału śvinoha, bojni hetyja pierarablajuć vałovinu i baraninu, što pracu jašče bolš utrudniaje. Pa kolkihadovaj praktycy fachovyja arhanizacyi anhlickija radziać svaim siabrom bracca za arhanizacyju vyrabu bekonaŭ tady, kali ŭ hetym-ža rajonie byŭ užo sarhanizavany i pracavaŭ zbyt śviniej žyvych. Kab zaachvocić rehularna dastaŭlać tavar u koop. bojniu, anhlickija kooperatary padzialili dastaŭcoŭ na 2 i navat 3 katehoryi. Systema apłaty za dastaŭleny tavar taksama pradbača try hatunki: 1. 140—180 funtaŭ, 2. 180—200 i 3. 200—220 funtaŭ. Pieršy hatunak apłačvajecca najdaražej. Pieraškodaj u raźvićci kooper. bojniaŭ u Anhlii jość i darahi rabotnik, tamu na rynku anhlickim pieramahajuć tavary z krajoŭ, dzie rabotnik taniejšy.

Jašče horšyja rezultaty zakładańnia kooperatyŭnych bojniaŭ akazalisia ŭ Złuč. Štatach Paŭn. Ameryki. Pryčynaj hetaha była roznarodnaść i nierehularnaść tavaru vyrablanaha na paasobnych fermach (haspadarkach). Siahońnia amerykanskija fermery ahraničajucca da pradažy inventara žyvoha.

Pavodle: „Spółdzielnie Rolnicze" — St. Wojciechowski.

---

*Da hetaha numaru „Samapomačy" dałučajem naš razrachunkovy pierakaz (konto Nr 40), jakim prosim apłacić naiežnuju nam padpisku. Chto nie apłacić, toj nastupnaha numaru časapisu ŭžo nie atrymaje.*

спадар наш ці то праз нясьведамасьць ці проста праз нядбайнасьць не зьвяртае належнай увагі на **адпаведны выбар**; ня выбірае ён ні барана — стадніка, ні самых авечак самак, а проста пакідае на гадоўлю тое, чаго ня ўдасца прадаць, а знача самыя ўжо толькі недабіткі. Ясна, што гэткія расплоднікі цэннага патомства даць ня могуць. А трэба ведаць, што іншыя народы дапрацаваліся да высокаякасных сартоў авечак толькі праз добры і ўмелы падбор племнага матар'ялу.

Гэта тры галоўныя прычыны благой якасьці авечай воўны. Затрымаемся цяпер над тым, як гэтыя прычыны абыйсьці і воўну папрвавіць.

Насамперш трэба авечкі адпаведна карміць ды ўважаць, каб у часе росту воўны авечкі ані галадавалі, ані тымбольш хварэлі. Далей, трэба пастарацца, каб у авечым хляве была шчыльная столь, з-за каторай, каб нічога не цярушылася. Пашу авечкам трэба даваць не на зямлю, але за драбінкі (ясьлі), пільнуючы адначасна, каб авечкі стаялі не ў растопах гною, але на сухой падсьцілцы.

Стрыгчы авечкі трэба найменш два разы ў год; стрыгчы трэба нізка, пры самай скуры, пры гэтым асаблівую зьвяртаць трэба ўвагу, каб не перастрыгаць воўну ўжо састрыжаную. Састрыжаную воўну пакідаецца на адзін дзень, каб перасохла. Калі воўна йдзе на продаж, дык найлепш авечак прад стрыжкай ня мыць. Калі аднак такая воўна мае пайсьці на вырабы хатнія, дык авечкі прад мыцьцём трэба канешна вымыць і пасьля пазволіць ім абсохнуць на пасьбішчы.

Найважнейшай справай дзеля атрыманьня добрай воўны ёсьць умелае і бязупыннае (стапае) выбіраньне племнага матар'ялу. Пры такім выбары галоўную ўвагу трэба зьвярнуць на тое, каб:

1. на плем браць і авечкі і бараны найлепшыя ў стадзе;

2. каб авечкі і бараны мелі тонкую, элястычную (цягучую), бліскучую, густую воўну, ды каб у самай воўне было даволі пуху і шэрсьці;

3. каб авечкі з баранамі ня былі лішне блізка пасваячаны, ды

4. каб выбраныя штукі ўжываць да расплоду толькі тады, як яны поўнасьцю фізычна дасьпеюць.

*Інж. Р. Г.*

# Збажавы даўганосік

Калі кончацца работы ў полі, пачынаецца ў гумнах малацьба, а па ёй— ссыпаньне вымалачанага зерня ў сьвірнах у гаруды, кублы ці плеценыя кашы. І тут як раз небясьпека, бо за зіму ня толькі зьнішчыцца зложаны запас, але ў цэлым сьвірне на доўгія гады можа разгасьціцца небясьпечны шкоднік усякага збожжа — **збажавы даўганосік** *(calandra granaria)*. Ёсьць гэта невялічкі, бо ўсяго 3—4 міліметры (няцэлы поўсантымэтр) доўгі, ясна або цёмна-буры жучок. Галава ягоная выцягненая у доўгае рылца ці носік, ад чаго і называецца даўганосікам. Вясной самка зносіць 100—200 яечак, па аднаму ў кожнае зерне. Па 10 днях з такога яечка вылюваецца рабачок, які жыве ў зярняці праз тры тыдні, па якіх ён ператвараецца ў дарослага жука — даўганосіка. Ён даядае рэшткі мукі ў зярняці, а пасьля прагрызае павалоку і вылазе наверх. Гэткае першае пакаленьне выводзіцца ў палавіне чэрвеня, другое — ў канцы верасьня, а калі паслужаць адпаведнія варункі, дык у год могуць спладзіцца і чатыры пакаленьні.

Якія-ж гэта варункі, якія даўганосік так любіць?

Насамперш любіць ён задуху, цяпло, сырасьць і цёмныя забруджаныя куты. Калі ў гэткае месца трапіць сырое, недасушанае збожжа, дык даўганосіку лепшага ўжо нічога і ня трэба: тут ён будзе пладзіцца і шкодзіць колькі схоча. А трэба ведаць, што шкодзіць даўганосік ня толькі тым, што выгрызае з сярэдзіны зярняці муку, але так-жа й тым, што сваім гноем затрувае ўсё зерне. Гэткае зерне пасьля плесьнее, становячыся няздатным ані да сяўбы, ані да корму. Мука з гэткага збожжа чорная, зьбіваецца ў камы, хлеб горкі. Ды на гэтым яшчэ не канец, бо раз загнежджаны даўганосік зусім ня мае ахвоты сам дабравольна з занятага месца выносіцца.

Спосабы выганяньня даўганосіка ня так ужо трудныя, але лягчэй прад ім бараніцца датуль, пакуль ён загнезьдзіцца. Даволі прад ссыпаньнем вымалачанага збожжа ўвесь сьвіран, а асабліва цёмныя ягоныя куты чыста вымесьці, не пакідаючы ў ім ні сьледу пылу, а тымбольш усякага сьмяцьця і астаткаў

# Што рабіць, каб курыца ўзімку добра няслася

Гаворачы аб зімовай носнасьці курэй заўсяды трэба мець на ўвазе, што носнасьць гэта перадаецца з курэй-матак на дзяцей правам спадкаемства. Таму на расплод трэба браць яйкі ад та кіх курэй, якія ўзімку добра нясуцца. Далей, зімовая носнасьць залежа таксама ад таго, калі (ў якую пару году) самыя носныя куры выклюнуліся з яйка. Найлепш нясуцца куры раньнія, гэта знача такія, якія выклюнуліся ў м-цы сакавіку (марцоўкі) і красавіку, бо гэткія куры маюць найбольш часу, каб добра разьвіцца. Акрамя таго некаторыя расы курэй дасьпяваюць раней, іншыя пазьней. Напрыклад „Леггорны" і „Зялёнаножкі" дасьпяваюць хутчэй, за 180—200 дзён, тады як Сусэксы, Кармазыны, Орпінгтоны, дасьпяваюць за 220—240 дзён (пазьней на 3 да 6 тыдняў). Далей, на носнасьць курэй мае ўплыў адпаведні дагляд і прымяшчэньне: чысты, сьветлы і сухі курнік.

Агулам уважаюць, што куры добра нясуцца тады, калі маюць курнік цёплы і таму часта трымаюць курэй у хатах. Гэта ўжо зусім лішняе. Праўда, у цёплым курніку куры — як і ўсякая іншая жывёла — менш спатрабуюць пашы на аграваньне свайго цела і таму ў цяпле яны ядуць больш чым у зімне. Але на самую носнасьць гэта ня мае ніякага ўплыву. Абніжаецца-ж носнасьць толькі такіх курэй, якія трымаюцца ў цёмных, сырых і брудных курніках, у якіх ахвотна гнезьдзяцца ўсякія шкоднікі. У гэткіх курніках куры ня толькі будуць кепска несьціся, але яны там будуць хварэць і нават гінуць. Адпаведняя-ж тэмпэратура пазнаецца па тым, што пастаноўленая ў курніку вада ня толькі ня сьмее замярзаць, але мусіць быць нават летняю.

Каб утрымацца пры жыцьці курыца не патрабуе шмат пашы, але каб гэта самая курыца добра неслася, то аднэй толькі бульбы з крыхой абсыпкі і жмені зерня тут ужо за мала. А да таго паша мусіць быць мяшанай. Ведама, што яйко мае шмат бялка, якога найбольш аднак ёсьць у жаўтку. На вытварэньне бялка й іншых цэнных складнікаў яйка курыца патрабуе адпаведняй пашы, ня толькі з расьлінаў, але і з мяса. Улетку куры самі на свабодзе зьбіраюць сабе рабакі, розныя мошкі, мінэральныя солі і г. д. Узімку-ж усяго гэтага курыца сама сабе пастарацца ня можа і ей трэба падаць гэта ў пашы. Найбольш бялка мае мяса, якое даецца варанае, па 4 дэка на штуку ў дзень. Вельмі добрай дамешкай да пашы ёсьць кроў: яна варыцца і дадаецца да бульбы. Варыцца кроў гэтак: у кіпячую ваду ўліваецца кроў, якая адразу „сьцінаецца" (зварываецца) ў кускі. У часе варэньня крыві яе трэба мяшаць, каб не прыгарэла да сьценак пасудзіны. Пасьля зваранаяя кроў адцэджваецца і перахоўваецца ў сьцюдзёным месцы. Каб такую

---

старога збожа. Вымеценую падлогу трэба змыць гарачай вадой, шчэліны заляпіць глінай і ўсю сыпку пабяліць вапнай з дадаткам крэоліны ці аніліны. Дзьверы, засекі, падлога націраюцца дзёгцем, усе запасы старога збожа чысьцяцца на млынкох („арфах") і прасейваюцца праз сіта. Усе мяшкі й посьцелкі трэба вымыць. Зерне з поля бывае чыстым ад даўганосіка і калі такое збожа ссыпаць у вычышчаны сьвіран (ссыпку), дык можна быць пэўным, што збожа чыстым і астанецца.

Старыя спарахнелыя сьвірны вымагаюць чысткі больш дакладнай. Ёсьць на гэта сягоньня шмат гатовых сродкаў фабрычных, але яны раз што для селяніна дарагія, а далей — у вясковых варунках не заўсяды бясьпечныя. Таму найбольш адпаведнай для нас будзе серка, газ і пара якой дастаюцца і ў найменшыя дзіркі нішчачы там зародкі шкодніка. Ужываючы серкі да чышчэньня сьвірнаў трэба насамперш усе меншыя дзіркі ў падлозе і ў сьценах пазамазываць глінай перамешанай з каравячым гноем. Большыя-ж дзіркі затыкаюцца намочанымі анучамі. Усё гэта робіцца па тое, каб газ ня выходзіў навонкі. Як гэта гатова, тады ў гаршчок напоўнены жараткам (вуглем) кідаюцца кускі серкі. Выдзяляецца газ, які трымаецца ў шчыльна замкнёным сьвірне роўна 24 гадзіны. Праз гэты час серкавы газ забівае ўсе зародкі шкодніка. Каб газ меў даволі сілы, трэба на кожныя 10—15 куб. м. абыйма сьвірна спаліць прынамся 1 кілёграм серкі.

*Л. Г.*

кроў перахаваць на даўжэй найлепш пячы з яе „хлеб“. Замешваючы гэткі хлеб сыплецца звычайная хлебная мука, а замест вады льецца кроў. Як толькі цеста падыйдзе, яно садзіцца ў печ. Выбраныя з печы бондачкі гэткага крывянога хлеба трэба спачатку астудзіць, пасьля парэзаць і высушыць на сухары, каб ня плесьнелі. У сухім месцы гэткія сухары можна трымаць цэлымі месяцамі як вельмі цэнную пашу... Натуральна, як мяса так і кроў для курэй аплаціцца даваць толькі там, дзе ўсё гэта можна дастаць як танныя адпадкі, напр. у гарадзкіх бойнях.

На пашу для курэй прыдатна ўсякае збожа, акрамя жыта, асабліва сырога, якое бывае прычынай развальненьня ў курэй Сухое жыта малымі порцыямі аднак прывыкшым курам даваць можна.

Добрай пашай для курэй ёсьць так-жа паша зялёная, як капуста ў галоўках, пашны жывакост, пашныя буракі і сушаная крапіва. Буракі ня кідаюцца на зямлю, але вешаюцца так, каб былі на 50 см. над зямлёй. Крапіва цэнная тады, калі яна зжата была яшчэ прад цьвіценьнем і высушана ў правеўным месцы. Узімку такая крапіва пераціраецца на парашок і дадаецца да бульбы, або падаецца курам проста ў снапкох. Акрамя таго мусяць быць у курніку пясок або дробна патоўчаная цэгла. Такі грубы жвір патрэбны курыцы на тое, каб расьціраў у трыбусе пашу, падобна як жорны, бо курыца, як ведама, зубоў ня мае. Часта можна бачыць, як куры дзюбаюць сьцены: гэта паказвае, што яны патрабуюць вапны, з каторай будуюць шкарупку яйка. Гэты недастатак вапны дапаўняецца кормам з гэтых-жа шкарупак, якія аднак прад тым трэба добра растаўчы, бо йнакш курыца прывучыцца дзюбаць свае собскія зьнесеныя яйкі.

Акрамя таго ў курніку павінна быць вада.

Гэта найгалаўнейшыя рады дзеля запэўненьня добрай носнасьці курам нават узімку, калі яйкі найдаражэйшыя.

## *АПЛАЦІЦЕ ПАДПІСКУ!*

*Да заканчэньня сёлетняга гадавіка „Самапомачы“ астаўся йшчэ адзін толькі нумар. Дастануць яго ўсе нашы падпішчыкі у звычайным часе, г. зн. каля 20 сьнежня (XII) сёлета. Упераджаем аднак, што высылку гэтага нумару (за м-ц сьнежань) стрымаем тым падпішчыкам, якія дагэтуль не аплацілі нам свае падпіскі. Таму кожны, у собскім інтарэсе, хай праверыць ці не залягае з доўгам. Падпіску трэба слаць далучаным разрахунковым пераказам.*

*Выдавецтва „Самапомачы.“*

## Скасавалі

Польскія ўлады выдалі анагдай закон, на падставе якога ўсе цяперашнія ўласьнікі зямельных нярухомасьцяў на адабраным ад Чэхаславаччыны Шлёнску, купленых, атрыманых ці йнакш прыдбаных па дні 30 кастрычніка 1918г., мусяць да дня 1 студня 1939 г. дастаць сабе ў адпаведнага старасты пацьверджаньне ўласнасьці гэтых нярухомасьцяў. Хто да гэтага дня такога пацьверджаньня не дастане, таго маемасьць аўтоматычна пераходзіць пад казённую адміністрацыю, або казна прымусам яе выкуплівае. Пацьверджаньня такога не патрабуюць толькі тыя, хто атрымалі зямлю ў спадку. Практычна найбольш пры гэтым заінтэрэсаваныя будуць тыя, хто атрымаў зямлю пры парцэляцыі, якую Чэхі праводзілі вельмі шырака.

## Будуць арганізаваць

У Міністэрстве Земляробства ў Варшаве адбылося анагдай паседжаньне сумыснага Камітэту Арганізацыі Дробна-Сялянскіх Гаспадарак, на якім устаноўлены праект наказу Земляробскім Палатам, тэрыторыяльнаму самаўраду і дабравольным фахова-земляробскім арганізацыям у справе прымусовай арганізацыі вёскі З таго што ў газэты ўжо дасталася можна дадумывацца, што з дабравольнай ініцыятывай жыхарства вёскі будуць рахавацца вельмі мала.

# Гаспадарская хроніка

**Колькі распарцэлявалі.** Паводле афіцыяльных падлічэньняў, за першае сёлетняе паўгодзьдзе ў Віленшчыне, Наваградчыне, Беласточчыне, і на Палесьсі было распарцэлявана разам 16.544,9 га зямлі, з чаго казённая парцэляцыя абняла 638,5 га. У паасобных ваяводзтвах у ўспомненым часе распарцэлявалі: у Віленшчыне 4.212,8 (казённай 26,5) га, у Наваградчыне 4.747 (казённай 135) га, у Беласточчыне 1.848,1 (казённай 438,7) га і на Палесьсі 5.737 (казённай 38.3) га. Лічбы гэтыя выразна паказваюць, што акрамя Беласточчыны, пад парцэляцыю йдуць у нас пераважна двары прыватныя. Тая-ж самая статыстыка паказвае, што напр. у Кракаўскім ваяводзтве у першую чаргу йдуць пад парцэляцыю землі казённыя. — Шкода толькі, што не пададзена, хто распарцэляваную ў нас зямлю атрымаў; прыездныя людзі ці сялянства мясцовае.

**Яшчур у Віленшчыне.** У канцы мін. месяца ў в. Рудня, Дзявеніскай гм., Ашмянскага пав. быў сьцьверджаны яшчур (прышчыца) у скаціны. Ёсьць гэта ў Віленшчыне першы выпадак гэтай заразнай хваробы, якая паказалася за раз у шасьцёх гаспадарках. Улады прыступілі да забясьпечаньня, каб хвароба не пашыралася далей. Трэба, каб з гэтай хваробай былі асьцярожны самі гаспадары і сьцісла выконывалі ўсё тое, што наказваюць санітарныя ўлады.

**Пажар лянной фабрыкі.** 20 кастрычніка сёл. выбухнуў пажар у нова-заложанай лянной фабрыцы „Вялейка“ у Новай-Вялейцы. Паказваюць, што пажар паўстаў ад таго, што ў скуплівaным лёне бывае жвір, а нават каменьне, якое, дастаўшыся на стальны вал, крэсіць іскры. Калі гэткая іскра дастанецца ў пакулы і падмяльле, дык паўстае пажар вельмі лёгка. Вот-жа так быццам было і гэтым разам. Калі гэта сапраўды так, дык кепска гэта сьведчыць аб прадуцэнтах лёну, якія свайго тавару добра ня чысьцяць, а яшчэ горш было-б, калі-б яны ў лён дакладалі каменьне дзеля вагі. — На шчасьце, фабрыка была застрахавана. Пажар усяе фабрыкі ня зьнішчыў і страты аблічаюць на паўмільёна злотаў.

**Кошыкарская школа ў Вялейцы.** Заснаваная летась ў Вялейцы (старой) аднагодняя кошыкарская школа сёлета пераменена ў школу двугодню. На першы курс сёлета прынята 17 вучняў. Праграма школы, акрамя вырабу звычайных кошыкаў і найпрыгажэйшых мэбляў, прадбача йшчэ: фаховую калькуляцыю, арганізацыю варштату, рысункі тэхнічныя, гадаваньне кошыкарскай лазы і інш.

**Коопэратыўны гандаль рыбай разьвіваецца.** Пачаткі гэтай справы для ўсей Польшчы дала Вільня, бо тут шэсьць гадоў таму назад пачала працаваць першая „Коопэратыва Саюзу Прадуцэнтаў Рыбы.“ Сягоньня гэта коопэратыва ў самай Вільні мае да дзесятка крамаў ва ўсіх канцох места, а акрамя таго аддзел у Варшаве. За Вільняй, як пішуць газэты, ідуць і іншыя месты. Дадаць тут трэба, што гадаваньне рыбы ў штучных ставох гэта вельмі выгоднае выкарыстаньне замоклых гаспадарскіх няўжыткаў.

**Літоўскі Кансулят у Вільні.** Польскія газэты пішуць, што яшчэ да новага году маюць быць адчынены літоўскія консуляты ў Польшчы: адзін у Вільні і адзін у Гдыні. Вымагаюць гэтага быццам гаспадарскія суадносіны паміж Літвой і Польшчай.

**Ласосі ў Вяльлі і Жэймяне.** У найбліжэйшым часе у Вяльлю і ў Жэймяну мае быць дастаўлена ікра ласося. Разам з тым аднак на ўспомненых рэках заводзіцца пляновая рыбная гаспадарка; лавіць рыбу у гэтых рэках можна будзе толькі з адпаведным дазволам.

ЧЫТАЧЫ І ПАДПІШЧЫКІ!

*Памажэце нам зьбіраць новых чытачоў! Гадавая падпіска за 1 экзэмпляр з перасылкай — 3 зл., за 5 экзэмпляраў — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Грошы прысылайце так, як паказана на апошняй бачыне часапісу ўнізе.*

Pierasyłka apłačana ryčałtam



## Як пісаць рэклямацыі

Той спаміж падпішчыкаў, хто аплаціў у час падпіску і міма таго не дастае часапісу ў пару, — замест траціць грошы і час на пісаньне да нас пісьма, хай з сьведкам (лепш з двума!) ідзе на сваю пошту і дамагаецца, каб яна прыняла або сама выслала да нас **рэклямацыю** (паўторнае запатрэбаваньне). Трэба ведаць пры гэтым, якога нумару падпішчык жадае. Рэклямацыя нічога не каштуе і пошта прыняць яе мусіць; а калі-б чамусьці не прыняла, тады толькі трэба аб усім нам напісаць, падаючы між іншым: сваё імя-прозьвішча і адрэс, назоў самой пошты, імёны і прозьвішчы сьведкаў і скуль яны паходзяць (вёска, мястэчка) і калі (дзень, месяц) ўсё гэта дзеелася.

Самая рэклямацыя выглядае гэтак:

> *Reklamacja gazetowa*
>
> У рэдакцыю часапісу „Самапомач"
> **у Вільні**
> Wilno, Zawalna 1—2.
>
> Не атрымаў „Самапомачы"
> за месяц **лістапад 1938 г. № 11.**
>
> **25 лістапада 1938 г.** (Дата) — **Сьцяпан Дрозд** (Подпіс і адрэс) в. Залесьсе п. Дубнікі

Нічога больш у такой рэклямацыі пісаць ня можна. Напісаную картачку трэба ўлажыць у заадрэсаваную але незаклееную копэрту, на каторай над адрэсам, у правым кутку ўверсе, яшчэ дапісваецца „Reklamacja gazetowa." Гэткае пісьмо — рэклямацыю, без паштовай маркі, пошта павінна прыняць і пераслаць паводле адрэсу, гэта знача нашай Адміністрацыі. З сваей стараны заяўляем, што дадатковыя нумары „Самапомачы" будзем высылаць толькі тым, хто прышле нам праз сваю пошту гэткія рэклямацыі, або пацьверджанае сьведкамі заяўленьне, што пошта рэклямацыі не прыняла.

*Адміністрацыя „САМАПОМАЧЫ."*

## *Гаспадарская ўсячына*

**Сеюць жыта паміж бульбы.** У вайсковай асадзе Дыдусяна, Пружанскага пав. дзесяць год ужо праводзілі пробу з засяваньнем жыта ў рады, паміж каторых садзілі бульбу. Пробы гэтыя далі з гэктара 120 мэтрычных цэнтнараў (q) бульбы; жыта-ж далі гэтулькі, колькі дала суседняя ніўка, на каторай бульба ня была саджанай. Жыта з гэткай ніўкі можна зьбіраць толькі сярпом.

**Нямеччына без сьмятаны.** У канцы кастрычніка ў Нямеччыне выдалі загад, на моцы якога ў міжчасе ад 15 верасьня да 14 мая кожнага году, пад страхам турмы і штрафу, забараняецца вырабляць, перарабляць і прадаваць на спажыцьцё сьмятану.

**Другая Вільня—ў Канадзе.** Толькі нядаўна прыйшла з Канады (Паўн. Амэрыка) вестка, што там ёсьць сяло, якое называецца Вільня. Заснавалі яго кашубы і пазнанякі, каторыя туды прыехалі прад 70 гадамі.

**У бой з сухотамі.** Віленска-Троцкі павет быў у нас першым, што пачаў арганізаваць проціў-сухотную помач на вёсцы. У палавіне кастрычніка сёл. гэткае самае Т-ва паўстала і ў павеце Сьвянцянскім. Пакуль усё ўладзіцца ў новым Таварыстве, у Падбродзьдзе што два тыдні будзе прыяжджаць рухомая Колённа (лекар з адпаведнімі прыладамі) з павету Віленска-Троцкага.





„Самапомач" выходзіць раз на месяц
ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1.
Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.
Выдавец: „БЕЛПРЭС"
Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ.
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.